№4, жнівень 2000 г.

*Незалежнае экалагічнае выданне*

# Зялёны гай



## Булёну на ўсіх не хопіць



**Большае усё ж такі ў нашай гаротнай Беларусі людзей, што дбаюць не толькі пра тое, што тут, зараз, пад носам, але й пра тое, што далёка-далёка за небакраем, тым, што ў прасторы і ў часе! Пераканацца ў гэтым я меў магчымасць на крутой экалагічнай імпрэзе пад строгай навуковай назвай «Нацыянальныя слуханні па ўстойлівым развіцці і Хартыі Зямлі».**

І хоць адбылася яна ўжо даволі даўно — дзесьці ўвесну, ейныя вынікі не састарэлі (з імі такое здарыцца ой як не хутка!).

Аднак аб усім па парадку.

Праводзілася навуковая канферэнцыя надзвычай сур'ёзнымі арганізацыямі: Радай Зямлі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Беларускім аддзяленнем Міжнароднай акадэміі экалогіі ды Беларускім камітэтам садзейнічання Праграме ААН па навакольнаму асяроддзю.

Паседжанне праходзіла ў не менш паважнай структуры — у Навукова-даследчым інстытуце праблем горадабудаўніцтва Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі (са сваёй пільнай аховай ды сакрэтнымі матэрыяламі!). Як аказалася потым, выбар месца правядзення такой сустрэчы быў зусім не выпадковым. Менавіта ў гэтай навукова-даследчыцкай установе працуе ці не найбольш у Беларусі знаўцаў праблематыкі ўстойлівага развіцця.

Што ж за звер такі (гаворачы ну надта ўжо экалагічна) гэтае ўстойлівае развіццё?

Заходнія навукоўцы яшчэ дзесьці на пачатку семідзесятых задумаліся над тым, як будуць жыць нашыя нашчадкі ў будучыні. Высновы шакіравалі. Вынік шляху, па якім мы — чалавецтва — ідзем, ужо вядомы: Апакаліпсіс. Праўда, не сёння. Крыху пазней — заўтра.

Мы нібы бактэрыі ў знакамітай ёмістасці Петры: змешчаныя ў пажыўнае асяроддзе, мы імкліва размнажаемся, пажыраючы смачненькі супок зямных рэсурсаў. Нашых выдзяленняў (забруджанняў) у замкнёнай пасудзіне (на Зямлі) становіцца ўсё болей, а булёну — меней. Вось ужо нашыя экскрэменты не даюць нам дыхаць... Нарэшце, з-за іх нам няма чаго есці! Памі-і-р-р...

Каб чалавецтва заўчасна не памерла ад ўласнай дурасці, выбачайце, ад неразумнага выкарыстання рэсурсаў, думаючыя галовы выкрышталізавалі ідэю пра неабходнасць ўстойлівага развіцця. Пакрысе яна ператварылася ў своеасаблівую праграму, як нам жыць разумна, ашчаджаючы для сябе і нашчадкаў абмежаваныя рэсурсы матухны-Зямлі. Цяпер канцэпцыя ўстойлівага развіцця дае чалавецтву канкрэтныя прынцыпы, паводле якіх мы мусім жыць, не знішчаючы саміх сябе і нашую планету. Вось галоўныя з іх:

— крыніцы энергіі і матэрыялаў павінны аднаўляцца;

— уздзеянне чалавека на прыроду мусіць не перавышаць паглынальныя здольнасці навакольнага асяроддзя;

— выкарыстанне энергарэсурсаў павінна радыкальна зменшыцца;

— сацыяльна-эканамічнае і экалагічнае развіццё мусіць быць збалансаваным.

Як бачым, экалагічныя варункі, фактары, аб'екты стратэгія ўстойлівага развіцця разглядае як эканамічныя катэгорыі. Такім чынам, на мой погляд, гэтая канцэпцыя здымае спаконвечную апазіцыю экалогіі і эканомікі. Яна выстройвае ланцужок узаемасувязяў і ўзаемазалежнасцяў: людзі — эканоміка — прырода.

### АСОБНЫ ШЛЯХ

Знешне пытанне «Прыняць або не прыняць такую праграму развіцця для Беларусі?» не стаіць. Краіна неаднаразова на міжнародных форумах падтрымлівала канцэпцыю ўстойлівага развіцця, абяцала яе ажыццяўляць.

Аднак на самой справе рэальна для рэспублікі і ейных асобных рэгіёнаў праблема так і не стала найважнейшай. Гэта выразна адчувалася ў тых выступах, што гучалі з афіцыйнага боку. Беларуская ўлада пакуль не ўсвядоміла неабходнасці новых падыходаў да цывілізацыйнага прагрэсу.

Так, створана на вышэйшым узроўні Нацыянальная камісія па ўстойлівым развіцці. Але далей слоў справа пакуль не зрушылася. Урад нават не выпрацаваў нацыянальную стратэгію для ўстойлівага развіцця. Кволыя крокі, што робяцца ў гэтым накірунку, — у асноўным заслуга недзяржаўных арганізацый ды асобных навукоўцаў.

Тлумачылася такая палітыка нашых урадоўцаў даволі проста. Няма сродкаў. На канферэнцыі гэтая фраза гучала не раз.

Але, мне думаецца, ёсць і іншыя прычыны, чаму чынавенства марудзіць з ажыццяўленнем сучаснай праграмы развіцця. Даволі закасцянелая беларуская бюракратыя баіцца новых падыходаў да жыцця, страшыцца радыкальных пераменаў. А яны якраз і прадбачваюцца стратэгіяй ўстойлівага развіцця: «Нацыянальныя асаблівасці ўстойлівага развіцця Беларусі вызначаюцца арыентацыяй на суверэнітэт і неабходнасцю пошуку эфектыўных шляхоў выхаду з эканамічнага крызісу, пад»ёмам жыццёвага ўзроўню яе грамадзян, уключэннем краіны ў сусветную супольнасць і падтрыманнем сяброўскіх зносін з усімі краінамі свету».

Некаторыя адмыслоўцы нават сцвярджаюць, што гэтая канцэпцыя — асобны шлях, па якім можа пайсці Беларусь. Шлях, альтэрнатыўны вяртанню сацыялізму і імклівай капіталізацыі.

### СВЯДОМАСЦЬ ВЫЗНАЧАЕ БЫЦЦЁ

Рэальнай альтэрнатывай двум іншым накірункам стратэгія ўстойлівага развіцця можа стаць толькі тады, калі грамадства ўсвядоміць гэтую ідэю.

А пакуль беларусы не азнаёмлены нат з элементарнымі ведамі пра ўстойлівае развіццё. Пагэтаму і навукоўцы, і прадстаўнікі экалагічных НДА гаварылі на канферэнцыі пра катастрафічную недасведчанасць нашых суайчыннікаў у гэтай галіне.

**(працяг на стар. 3)**

# Настаўніца, якая дапамагае ўвайсці ў свет прыгажосці

Госць нумара — кандыдат біялагічных навук, дацэнт кафедры батанікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, а таксама адна з аўтарытэтных кансультантаў «Экавіты» Алена Уладзіміраўна Антонава.

**— Як так сталася, што Вы звязалі жыццё менавіта з батанікай?**

— Усё пачалося з лекцый Галіны Захараўны Бакаевай на першым курсе. Надзвычай цікавыя лабараторныя заняткі. І меладычны чароўны голас. Усё гэта неяк прыцягнула да батанікі. Калі для першакурснікаў надыйшоў час выбіраць навуковы гурток, мяне пад уплывам «статкавага інстынкту» панесла вывучаць какцыдый. Але адразу адчула: не маё гэта. Таму, слухаючы голас сэрца, прыйшла ў студэнцкі батанічны гурток. Курсавыя работы ў Галіны Захараўны, курсавая і дыпломная пад кіраўніцтвам Віктара Пятровіча Мартыненкі. Над гэтай дыпломнай я з задавальненнем працавала ўвесь вольны час, нават у перыяд студэнцкіх вакацый. Была старастам батанічнага гуртка. Працуючы па размеркаванні ў школе, мяне цягнула вучыцца далей. Ну, а першы курс аспірантуры найцікавейшы: батаніка+англійская мова. Далей — праца над кандыдацкай, абарона...

**— Тэарэтычна ў Вас была магчымасць «застацца ў навуцы», займацца чыстай батанікай усё жыццё ў батанічным садзе або якім навукова-даследчым інстытуце Нацыянальнай Акадэміі Навук. Прафесія настаўніка, выкладчыка — наколькі яна прывабная?**

— Самы складаны від дзейнасці — сацыянамічны, г.зн. чалавек — чалавек. Бо няма больш загадкавага і цікавага аб'екта ў прыродзе, чым чалавек. Вось чаму прафесія настаўніка даволі цяжкая і, на жаль, жабрацкая (бо тыя грошы, што мы атрымліваем, сорамна называць зарплатай). Але гэта тэма іншай размовы. Дык вось, што датычыцца настаўніка наогул і настаўніка біялогіі ў прыватнасці...

**— У Вас былі добрыя настаўнікі?**



— На працягу вучобы шанцавала на настаўнікаў з вялікай літары. Гэта і мая першая настаўніца, і школьныя настаўнікі гісторыі, англійскай мовы, фізікі, матэматыкі, рускай мовы. Гэта і выкладчыкі Віцебскага педагагічнага інстытута. Нават і зараз стаўлюся да іх як вучань да настаўніка. Настолькі глыбокае пачуццё, што перабудаваць сябе на адносіны да іх як да калег не магу. У аспіранцкія гады пашчасціла працаваць з такімі вядомымі вучонымі, як Мікалай Васільевіч Шкутко (шкада, што ён ужо нябожчык), Ігар Міхайлавіч Гарановіч, Нэлі Уладзіміраўна Гетко, Канстанцін Дзмітрыевіч Чубанаў і інш.

**— А зараз не парываеце кантактаў са школамі?**

— Зараз, калі бываю ў школах, прыемна сустракацца з зацікаўленымі, улюбёнымі ў сваю справу настаўнікамі Аляксандрай Мікалаеўнай Купрыянавай, Інай Рыгораўнай Елісейкінай і інш.

**— Ці з'яўляюцца тэарэтычныя веды для студэнтаў такімі ўжо неабходнымі, каб весці назіранні ў прыродзе?**

— На працягу года мы са студэнтамі знаёмімся з асаблівасцямі будовы раслін, а ў перыяд вучэбна-палявой практыкі, што называецца, сам-насам з прыродай. І адразу бачна, хто ўмее назіраць, з павагай ставіцца да нашага зялёнага сябра, а хто, на жаль, гэтаму яшчэ не навучыўся.

**— Рускі мысляр К.Ушынскі неяк выказаўся ў тым сэнсе, што прыгожы краявід мае такі выхаваўчы эфект на маладую душу, з якім цяжка спаборнічаць уплыву педагога. Атрымліваецца, што Вы настаўніца ад прыроды; прырода ж з'яўляецца настаўніцай сама па сабе.**

— Так, прырода — гэта і настаўніца, у якой можна шмат чаму павучыцца. Узяць ну хаця б маленькую раслінку, танюсенькі прарастак, які праклюнуўся з насеннай лупіны, яшчэ толькі выглянуў на белы свет. Яго вышыня ўсяго 2-3 см, але гэтае пяшчотнае стварэнне ўжо здолела прабіць таўшчыню асфальтавага пакрыцця дарогі і з усіх сіл цягнецца да сонца. Нельга не падзівіцца на такую прагу да жыцця!

Прырода — настаўніца, якая дапамагае ўвайсці ў свет прыгажосці. Нездарма гукі прыроды параўноўваюць з музыкай. А музыка нагадвае аб прыродзе. Усім вядомыя класічныя творы П.І.Чайкоўскага «Вальс кветак», А.Вівальдзі «Времена года» і г.д. Я ўпэўнена, што чалавек, які слухае класічную музыку, дэталёва ведае свайго зялёнага сябра, не можа зрабіць зло. У прыродзе ўсё гарманічна. Кожны з нас — часцінка прыроды. Сапраўды кажуць, што трэба пабудаваць храм у сваёй душы. Але сапраўды храм, а не паветраны замак. Так што прытрымліваюся дэвізу: «Прыгажосць выратуе свет».

**— Ці праўда гэта, што калі прыабняць дрэва або палазіць па ім, то паляпшаецца настрой?**

— Так. У дзяцінстве вельмі любіла палазіць па дрэвах і не памятаю, каб

у мяне быў дрэнны настрой. Ну, а калі сур'ёзна... Гэта агульнавядомы факт, што ў кожнага ёсць сваё дрэва. Калі, прытуліўшыся на некалькі хвілін да дрэва, адчуваеш цяпло, гэта яно і ёсць.

**— Не кожны ў наш час адшкадуе аж некалькі хвілін...**

— Мы ўвесь час кудысьці спяшаемся. А ты спыніся і паназірай, як набракае пупышка на дрэве, як разгортваецца маладзенькі зялёны лісток, як расчыняюцца бутончыкі кветак... Гэтыя назіранні робяць чалавека чысцейшым духоўна. А калі яшчэ ведаеш і будову, і механізмы прыродных з'яў, то і глядзіш іншымі вачыма. Дарэчы, біялагічна дакладныя назіранні можна знайсці ў мастацкіх творах Я.Коласа, У.Караткевіча, Е.Лось, Н.Гілевіча...

**— А ў творах небеларускіх пісьменнікаў?**

— Ёсць рэчы, якія павінны ведаць кожны сучасны чалавек. Пералічваць гэты спіс не бачу неабходнасці, бо ён агульнавядомы. Нагадаю толькі, што «табліцай множання» з'яўляюцца і творы Дж.Дарэла, К.Лорэнца, Дж.Хэрыота і інш.

**— Такім чынам, Вы папярэджваеце маё наступнае пытанне. Я хацеў пацікавіцца, ці любіце Вы чытаць.**

— Чытаць люблю. Але, шчыра кажучы, на доўгі час застацца сам-насам з добрай кнігай атрымліваецца толькі ў перыяд адпачынку. На працягу навучальнага году звяртаюся да паэзіі Э.Асадава. На жаль, у жыцці даводзіцца сустракацца з прыкладамі з ягонага верша «Розныя ўласцівасці».

**— А што больш любіце чытаць: прозу ці паэзію?**

— Не толькі люблю паэзію, але калісьці (вучаніцай, студэнткай) пісала вершы. У гады аспірантуры даводзілася часта ісці праз бярозавую алею. У канцы алеі быў гатовы вершаваны ліст дадому.

**— Ці шкадуеце аб сваім выбары? Калі б была магчымасць — што б змянілі ў ранейшым жыццёвым шляху?**

— Адзінае, аб чым шкадую, што няма магчымасці папрактыкавацца ў вуснай англійскай мове. Раней у мяне былі заняткі ў школе з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, потым — інстытут, дзяржаўныя курсы «Ин-яз» у Маскве. Апошні крок — падрыхтоўка і здача кандыдацкага іспыта. З таго часу — толькі пасіўная англійская (радыё, TV, артыкулы). А некалі ж я свабодна размаўляла in English...

**— І ўсё ж, кім Вы ў большай ступені сябе лічыце — прадметніцай або выхавацелькай?**

— Мне не надта падабаецца запаўняць раздзел «Выхаваўчая работа» ў індывідуальным плане, бо лічу, што нельга сёння вучыць, заўтра займацца выхаваннем, а паслязаўтра вучыцца самому. Усе гэтыя працэсы гэтулькі пераплецены, што аддзяліць адно ад другога немагчыма. На рабоце ты заўжды як пад мікраскопам. Сотні вачэй глядзяць і ацэньваюць цябе штохвіліны. Таму і выхаваўчая праца ажыццяўляецца таксама штохвіліны.

**— Так, сапраўды найбольш характэрным у педагогіцы лічыцца ўжываць словаспалучэнне «вучэбна-выхаваўчы працэс». Што б Вы хацелі на развітанне пажадаць чытачам «Зялёнага Гая»?**

— Жадаю кожнаму кахання. Гэта ўзаемнае, складанае пачуццё, якое ўключае і каханне да бацькоў, дзяцей; да свайго выбранніка; да справы, якой займаешся; да роднага слова; да Радзімы і г.д. Як бачыце, спіс доўгі. І мяне здзіўляе, як «абкрадзена» зараз «паняцце «каханне». Жадаю, каб людзі адчулі не адзін-два бакі гэтага пачуцця, а ўсю яго шматграннасць.

І нарэшце, вяртаючыся да ўжо сказанага, нагадаю словы Гётэ: «Прырода — адзіная кніга, якая на ўсіх сваіх старонках заключае высокі змест». Так што пажаданне такое: будзьце пісьменнымі і чытайце гэтую кнігу ўважліва.

*Гутарыў Уладзімір Слабін*

# Булёну на ўсіх не хопіць

*(пачатак на стар. 1)*

Прапаноў гучала нямала. Іх можна аб'яднаць, на маю думку, у адну вялікую (і ў духоўным, і ў практычным вымярэннях) мэту — выхаванне грамадства па прынцыпах устойлівага развіцця. Каб беларусы змянілі спосаб жыцця, трэба памяняць склад мыслення. Менталітэт нашых суграмадзян павінен грунтавацца не на антрапацэнтрызме (чалавек — вянец развіцця прыроды; чалавек падпарадкоўвае прыроду пад сябе; жывёлы — браты нашы меншыя і да таго надобнае), а на прынцыпах еднасці з прыродай, бо чалавек — яе часцінка.

Прышчапіць новую свядомасць будзе надзвычай цяжка. Тым больш, што ейная неадымная частка — экалагічнае мысленне — пакуль не стала нормай для большасці беларусаў. Грамадскасць не ведае асноўных правіл цывілізаваных адносін да прыроды. Навакольнае асяроддзе забруджваецца, разбураецца, знішчаецца не толькі «абстрактнай» эканомікай, але і канкрэтнымі звычайнымі людзьмі, якім «по фиг» дбаць пра нармальныя варункі жыцця для ўсіх.

Нават калі шэраговы грамадзянін ведае пра парушэнне прыродаахоўных нормаў, то часта ён не знае, што рабіць далей. Прававая непісьменнасць па экалогіі амаль татальная...

**ПАЧНЕМ З МАЛОГА**

Што ж могуць зрабіць недзяржаўныя экалагічныя арганізацыі, каб наблізіць беларускую грамадскасць да ідэй устойлівага развіцця?

Выхаванне грамадзян, канешне ж, патрабуе вялізных намаганняў. Не ўсе эколагі маюць на гэта час і сродкі. Але пачынаць калісьці трэба...

Думаецца, у складаных варунках з рэсурсамі НДА усё-такі не варта адкладваць на будучыню такую сур'ёзную задачу. Можа быць, зараз неабходна тэрмінова пачынаць з малога, але важнага кроку — вывучэння ў асяроддзі эколагаў канцэпцыі ўстойлівага развіцця (бо як жа мала мы ведаем пра яе!). Затым ужо варта выходзіць на шырокія колы: ладзіць грунтоўныя адукацыйныя праграмы, ствараць інфармацыйныя цэнтры па праблематыцы ўстойлівага развіцця, выходзіць на супрацоўніцтва з мясцовымі ўладамі па рэалізацыі канкрэтных задач...

Час працаваць!

**Юрась Сцяпанаў.**

# Надзвычайнае здарэньне ледзь ня стала трагедыяй

З чэрвеня на чыгуначнай станцыі ў Баранавічах адбылася ўцечка дыпраксаміну — атрутнай і лёгкай на загараньне вадкасьці.

Хутка пасьля поўначы абходнік чыгуначных пуцей заўважыў уцечку вадкасьці з бочкі ў цягніку, які накіроўваўся зь Берасьця ў Казахстан. Чыгуначнікі адразу ж выклікалі спэцыялістаў радыяцыйна-хімічнае выведкі, якія ўстанавілі ўсю небясьпеку сытуацыі. Побач знаходзіліся 112 столітровых бочак з дыпраксамінам і ад злучэньняў атрутнага рэчыва з паветрам у любы момант мог адбыцца выбух.

Ратавальныя каманды ачапілі вагон з прадзіраўленай бочкаю, налажылі на яе бандаж і перагналі вагон на бясьпечную адлегласьць. Месца ўцечкі — 1,5 кв.мэтра — было нэйтралізавана вадою і адмысловым парашком.

У Беларусі, якая з-за свайго геаграфічнага стану зьяўляецца транспартавым калідорам, кожны дзень на шляхох знаходзяцца небясьпечныя транзытныя грузы.

***«Zielone Brygady»***
***nr 7(152)/2000, czerwiec 2000***

# Кантралюйма малако!

*Упершыню за 14 зь лішкам гадоў пасьля Чарнобыльскае катастрофы Гомельскі абласны выканкам прыняў адмысловае рашэньне ў паляпшэньні арганізацыі радыяцыйнага кантролю малака ды іншых харчовых прадуктаў, якія вырабляюцца ў асабістых гаспадарках грамадзянаў на забруджаных тэрыторыях.*

Абласны выканкам у сваім рашэньні змушаны быў канстатаваць: у існуючай зараз арганізацыі радыяцыйнага кантролю за вытворчасьцю сельгаспрадукцыі ў асабістых гаспадарках ёсьць істотныя недахопы й нядбайнасьць.

Па-першае, з пачаткам летняга пашавага сэзону жывёлы не вядзецца масавы кантроль за малаком у прыватных гаспадарках. Тое ж самае назіраецца й напачатку зімовага стойлавага пэрыяду. Санітарна-эпідэміялягічная служба, на якую ўскладзены абавязкі кантролю, абмяжоўваецца асобнымі дзяжурнымі праверкамі. Мала займаюцца гэтай справаю мясцовыя органы ўлады.

Аграпрамысловы комплекс рэгіёну не выконвае ахоўныя захады, зьвязаныя са стварэньнем чыстых сенакосаў і пашаў для жывёлы вяскоўцаў. Сёлета, напрыклад, па лініі чарнобыльскага камітэту фінансуецца стварэньне такіх сенакосаў і пашы на плошчы 6,6 тысячы гэктараў. Фактычна выкананьне складае на сёньня толькі 27 адсоткаў.

Між тым паводле вынікаў радыяцыйнага кантролю перавышэньні дапушчальных узроўняў радыеактыўнага цэзію і стронцыю рэгіструюцца ў пробах прадукцыі з прыватных падворкаў 273 населеных пунктаў. Найперш гэта — у пробах малака, затым — мяса, радзей — бульбы ды іншае прадукцыі.

Па трыццаць і болей вёсак, дзе малочная прадукцыя не адпавядае аніякім радыяцыйным нормам, ёсьць у Чачэрскім, Лельчыцкім, Веткаўскім раёнах. Не нашмат менш такіх вёсак ў Нараўлянскім, Хойніцкім, Ельскім ды іншых забруджаных раёнах.

Няякасная прадукцыя з падворкаў у сукупнасьці са спажываньнем грыбоў, ягадаў, рачное рыбы абумоўлівае высокія ўнутраныя дозы апраменьваньня людзей, а ўрэшце — адмоўна ўплывае на іхнае здароўе.

Цяпер абласны выканкам патрабуе ад Цэнтру гігіены і эпідэміялёгіі і раённых «вэртыкальных» органаў перадаваць матэрыялы ў пракуратуру пры выяўленьні парушэньняў санітарнага заканадаўства ці «бязьдзейнасьці службовых асобаў, адказных за правядзеньне ахоўных захадаў у асабістых гаспадарках грамадзянаў».

Управа надзвычайных сытуацыяў і абароне жыхароў ад наступстваў Чарнобыльскае катастрофы разам з «аблсельгаспрадам» забавязаныя мяняць забруджаныя радыяцыяй кармы й сельгаспрадукцыю з прыватных падворкаў на чыстыя і, магчыма, нават забіраць кароў, калі малако ўвесь час бруднае.

Падобныя захады, трэба сказаць, прадугледжваліся й раней. Заяўлялася нават у першыя гады пасьля катастрофы, што ўся вобласьць будзе забясьпечвацца сапраўды чыстымі харчамі зь іншых рэгіёнаў краіны, у прыватнасьці, зь Віцебску. Аднак цяпер пра гэта афіцыйныя ўлады нават ня ўзгадваюць.

*Казімер Яноўскі, Гомель*
***Радыё «Свабода», 25 ліпеня***

***Матэрыялы падаюцца з захаваннем правапісу арыгіналаў***

---

# Створана рабочая група

15 красавіка 2000 года ў памяшканні рэсурснага цэнтра «Аб'яднаны шлях» (Мінск) адбыўся арганізацыйны сход ініцыятыўнай групы, у працы якой прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскіх арганізацый «Новая група» (Мінск), «Парастак» (Брэст), «Беларускі эколага-інфармацыйны цэнтр дзікай прыроды» (Домжарыцы, Тураў), грамадскай экалагічнай станцыі «Ольса» (Бабруйск), газеты «Беларуская Маладзёжная». На сходзе прынята рашэнне аб стварэнні рабочай групы па праблемах асабліва ахоўваемых тэрыторый і захаванню прыродных экасістэм Беларусі. Асноўныя накірункі яе працы:

- сістэма ахоўваемых прыродных тэрыторый Беларусі і прынцыпы яе фармавання;
- пытанні экалагічнай аптымізацыі прыродакарыстання;
- стварэнне экалагічных сетак у Беларусі;
- грамадскі кантроль за захаваннем прыродаахоўнага заканадаўства і функцыянаваннем ААПТ;
- удзел у фармаванні дзяржаўнай экалагічнай палітыкі.

Ахвотныя ўвайсці ў склад рабочай групы просьба паведаміць аб гэтым па аднаму з настуаных адрасоў:

Аляксандр Каштальян, БелЦАДП: Домжарыцы 211188, Лепельскі раён, Віцебская вобласць. Тел.: (232) 2-63-12. E-mail: bbsr@vitebsk.unibel.by.

Іна Зеніна, БелЦАДП: вул. Лясная, д. 7/1, Тураў 247980, Брэсцкая вобласць.

Ігар Куталоўскі, грамадская экалагічная станцыя «Ольса»: Пралетарская 13/20, Бабруйск 213809, Магілеўская вобласць.

***Аляксандр Каштальян***

# Чыкагскі дзённік

*У ліпені актывістка «Экавіты» і Руху працоўных жанчын па праграме Community Connections (Грамадскія сувязі) наведала Чыкага. Людміла Бальшакова нязмушана і з захапленнем дзеліцца сваімі ўражаннямі.*

**ЧАСТКА 1. ЭКАЛОГІЯ.**

Мы былі ў шмат якіх цікавых месцах, але пачаць хочацца з таго, што ўразіла і таго, што мае адносіны да ўсяго ўбачанага.

Першае, што ўразіла мяне ў Чыкага — гэта паветра. Не ведаю, куды амерыканцы падзелі коміны сваіх заводаў і выхлапныя газы аўтамашын, але пытанні экалогіі там вырашаюцца добра. Дагэтуль я ведала, што Чыкага — горад прамысловы. З'ездзіўшы туды, я пабачыла, што гэта горад курортны. Нам цяжка ўявіць сабе аўтобус без выхлапной трубы, але ж заплюшчыце вочы і ўявіце, як было б добра жыць у Віцебску, каб не сінія аблокі ля скрыжаванняў дарог. Амерыканкі нам казалі, што кожны, хто мае аўтамабіль, павінны раз на год праходзіць праверку. Штраф за атручанае паветра даражэйшы чым кошт аўтамабільных фільтраў-ачышчальнікаў.

Другое — гэта кветкі, кветкі, кветкі ўсюды, нават на слупах. Калі мы разгледзелі, што вялікі шар на вуліцы над галавой — кошык з букетам — зроблены з імху-сфагнуму, то вельмі смяяліся. Проста, прыгожа і кветкам добра. Амерыканкі нам казалі, што так не ўсюды, толькі ў цэнтры. Некалькі дзён я патрапіла на тое, каб высветліць, што за цэнтр яны маюць на ўвазе. Гэта ж 12 прыпынкаў на аўтобусе ад дому, дзе я жыла — а паабапал дарогі кветкі, дрэвы, паркі. Я хадзіла пешшу — вельмі цікава разглядаць прыгожыя куткі. Тады я запыталася — а колькі людзей жыве ў цэнтры. Мне адказалі, што тры мільёны. Калі зможаце, то ўявіце сабе паўтара Мінска ў кветках, ценістых парках і прысадах. А на ўскраінах Чыкага жыве яшчэ чатыры мільёны і ўсюды тыя ж газоны, дрэвы, алеі, кветкі.

Але больш за ўсё мяне здзівілі мае асабістыя пачуцці. Амаль месяц я была ў Паўночнай Амерыцы, а пачуццё таго, што знаходжуся за мяжой, так і не з'явілася. Расліны пад нагамі такія ж, як і ў нас дома — звычайны трыпутнік, спарыш, дзьмухавец, драсён, лебяда, цыкорыя... І краявіды ў парках звычайныя,



падобныя да беларускіх. Толькі клён цукровы, у бярозы кара ружаватая, а дрэва з лісцем ліпы мае іншую назву.

Там мы адчувалі сябе добра, бо асяроддзе пражывання для чалавека вельмі камфортнае. Прыемныя ветлівыя людзі, усё спакойна, прадумана так, каб для чалавека было зручна. На вуліцах не шумна; размаўляць цяжка толькі на двухпавярховай дарозе, дзе цягнік метро ідзе па другім паверсе — у цябе над галавой. Як працуюць рухавікі аўтамабіляў — нячутна. Мае сяброўкі адзначылі, што чутна толькі, як шумяць кандыцыянеры, калі адкрытыя вокны ў машынах.

Асобная размова — возера Мічыган з зялёнымі набярэжнымі, спартыўнымі пляцоўкамі, пляжамі, стаянкамі для яхтаў. Спачатку я заўважыла, што чыкагцы ў суботу і нядзелю сем'ямі ў парках на газонах уздоўж возера робяць шашлыкі, смажаць каўбасы, гуляюць і купаюцца. Далей я ўбачыла, што і ў будныя дні жыхары дружна выходзяць на веласіпедныя дарожкі і спартыўныя пляцоўкі. Гэта паркава-прыбярэжная зона ўражвае сваімі памерамі. Яна цягнецца на многія мілі ўздоўж возера. І ўсё ўзбярэжжа прыбрана, падмецена, газоны прыгожа падстрыжаныя. Па іх гуляюць людзі, сабакі, гаспадары ходзяць следам за чацвераногімі сябрамі з поліэтыленавымі пакетамі. Можа, таму і чыста. Настрой псавалі ўспаміны пра родныя «Юга», дзе ўвесну ад дому да дому неяк прайсці з-за сабачых экскрэментаў, з-за неахайнасці, нявыхаванасці сабачых гаспадароў.

У нашай групе большасць складалі жанчыны, можа таму на другі тыдзень высветлілася, што многія шукаюць... пыл. Так, самы звычайны пыл, з-за якога мы кожны чацвер вымушаны рабіць чыстым: трасём, мяцём, выбіваем, мыем. Чаму яго няма ў заакіянскіх хатах ? Зрэшты, да маёй гаспадыні неяк раніцай раз прыходзіла жанчына з пыласосам, але ў астатніх усё роўна пылу не было. Нягледзячы на роспыты, ад амерыканцаў толку не дабіліся. Ім было ўвогуле незразумела, чаму нас цікавяць пытанні ідавочныя. Пылу няма таму, што ён непатрэбны! Блок-вокны зроблены так, што яны не прапускаюць ні пылу, ні гуку. Мы сталі прыглядацца далей. Вось у парку дзяўчынка вельмі ўвішна ўпраўляецца з маленькай машынкай — ездзіць на ёй па дарожках і прыбірае пыл. Як тут не прыгадаць трактар «Беларус» з ягонымі шчоткамі, што падымаюць пыл паверха так да пятага!

Я пыталася таксама, чаму пад дрэвамі і кустамі вакол возера, на дарожках у парку ляжаць трэскі. Дакладней, нешта сярэдняе паміж трэскамі і пілавіннем. Амерыканцы падрабязна тлумачылі ўсё, пачынаючы ад тэхналогіі вырабу і ўжывання да агранаміі (мульчыраванне), але не казалі самую сутнасць. Тады да нас падыйшла перакладчыца Ганна, былая масквічка. «Што вы хочаце, — сказала яна. — Я ў Маскве была апошні раз год таму — дык там жа ўся зямля разварочана, — ад пылу не адбіцца.» Дык вось у чым справа! Эўрыка! Усе сцяжынкі пасыпаны тоўстым слоем трэсак таму, што Чыкага — горад вятроў. Возера Мічыган гэтулькі вялізнае, што брызы там як на моры — штармавы вецер. Пры гэтым трэскі — не пыл, яны не лётаюць.

У Чыкага гэта само сабой зразумела. Аднак навуковец у парку па-свойму патлумачыў, чаму іхнія валанцёры не пасыпаюць сцяжынкі прыгожым жоўтым пясочкам. Маўляў, пясок у дождж утварае бруд і пэцкае абутак.

Ледзьве не забылася на вавёрак. Аднойчы раніцай, як ішлі на метро, мы налічылі іх 5 штук. На вуліцах Чыкага іх, мабыць больш, чым у нашым лесе.

***Працяг у наступным нумары.***

***Людміла Бальшакова***

# English Page
# Survival formula

***ALLHUMAN STANDARD FOR THE THIRD MILLENIUM***

The Appeal to the Members of The Scientific and Medical Network and Other Scientists around the world



**Прафесар Ян Марыя Шыманскі — старшыня Фонду за выжыванне і адраджэнне чалавецтва — Fundacja dla Ludzkiego Przezycia i Odrodzenia — (Лодзь, Польшча) — ужо колькі месяцаў як кансультант «Экавіты», з якім пакрысе ўсталёўваюцца цёплыя сяброўскія адносіны, як і належыць суседзям.**

**Сачыненне «Фрмула выжывання: агульначалавечы стандарт для трэцяга тысячагоддзя» ўяўляе сабой заклік да навукоўцаў і ўрачоў свету.**

**OUR HORRIFYING WORLD**

We are living in the time of quantitatively and qualitatively growing processes of divergence, which in short we call the crisis of civilization. Two world wars, the abolition of colonialism, rise and fall of totalitarianism, primary experiences with nuclear power, awareness of environmental waste, fascinating promises of technological development — these are the causes of the turning point embracing all sides of life. This point is characterised by the processes of previous structures collapsing as well as the arrival of new unprecendented phenomena; we have reached « the historical turning point» (F. Capra).

This mentioned turning point originated from advanced ideas and values, but exceeded far beyond the intellectual frame. The development of non-Euclidean geometries and non-classical systems of logic, the Einsteinian equivalence of all reference points, just of the turn of the XIX-XX centuries the process of disregarding the traditional search for absolute truth began. This process rolled in two different directions: in the scientific methodology it prospered with the «Copernican Revolution», in politics it was «the end of the age of ideology»(Aron, Daniel Bell)..

Nowadays we know, that each observation is possible and each statement may be truthful only to a given point (frame) of reference. Scientism, the faith of absolute power of science is gone. There is no longer a distinction between the everyday and scientific truth, only variations of latter are possible. In politics however, it requires abandoning taking ideas as absolute truth, looking for it in the pragmatic process of trial and error.

Traditional value systems are breaking down everywhere, the shadow of political and moral crisis is going to cover the whole world. After the collapse of Communism, which was expected to be a remedy against the extremism of Capitalism, humanity entered anew the same crossroads, this time without Utopian delusion, but with the phantom of nuclear or environmental extermination in our eyes.

The main demand of Today is Sustainability, survival of life on the planet, which means the social system determining life conditions for future generations. Nobody knows however, how society should look for and which is the way to establish it.

Thus the world is just looking for the way. The world-movement, leading to the mentioned new order does not exist yet. It will not be shaped by environmental associations, who with regard to the case of Kosovo appeared as ideologically minded and somewhat politically immature, being rather the epigones of the decreasing era of violence, but not the pioneers of the new one. One may count only on the more advanced personalities or groups within environmentalists.

The priority of human rights protection before national sovereignty has hardly transformed international law in recent years. Although the Catholic Church appealed to end the epoch of confessional wars and open the era of allhuman solidarity, violence is still the foundation of the existing world-order. Violence is presented by the monopolistic systems of power: political, economic and ideological.

Where authoritarian powers disappeared, now «democratic» governments are controlled by transnational monopolies of finance and trade. Some researchers predict the end of political development, even the end of the species «Homo Sapiens», one part of which may be extinct. Another one will develop as a new species of «Homo Intellegens»,able to control his own emotions (Masudo, Fukuyama). Arsenals of mass destruction weapons are growing worldwide, sanguinary conflicts are developing, especially in the countries of low income.

Confessional communities around the world are self-polarizing into the minorities of the individual, open spirituality and exclusive majorities, following external rituals of worship. The discovery of unimaginable power of non-material energy of empty space (Zero Point Energy — ZPE, Quantum Vacuum Energy — QVE), yet unknown to common opinion, expected by distinguished scientists to be a divine power (creation of the space-time, consciousness, memory and energy conservation) may transform hitherto prevailing materialistic civilization into a spiritual one, stimulating the revival of all confessions on the foundation of both faith and scientific knowledge.

We have opened the mysteries of both inanimate and biologically organized matter. We are in a position to increase the giant energy to defend the planet against collision with any extraterrestrial body or to destroy it totally. We can create new, unknown in nature self-replicating organisms. We are unaware of, however, the possible repercussive consequences of genetic engineering and cloning living bodies.

*Працяг у наступным нумары.*

# Літаратурная старонка: Пімен Панчанка

## РАЎНАПРАЎЕ ДРЭЎ

Пара падумаць пра раўнапраўе дрэў.

Даволі падглядваць,
Як горнецца тонкая рабіна
Да самаўпэўненага дуба.

Не кляніцеся ў каханні
Да белай бярозы:
Вы даўно ёй здрадзілі,
Нож у белыя грудзі ўсадзілі,
Каб толькі напіцца
Яе свежай вясновай крыві.
І гэтага вам было мала.
Вы перарэзалі ёй сухажылле,
Кінулі ў прагную печ,
Каб яе апошнім гарачым дыханнем
Пагрэць свой стары раматус...

І так, я пра раўнапраўе дрэў !

Слава табе, вольха !
Ты самая мужная і адданая
Захавальніца нашых рэчак
І заступніца сарамлівых дзяўчат.

Асіна, мая асінка !
Я больш не дазволю нікому
Удавіцца на тваім суку -
Няхай разбіваецца
На раўнадушнай машыне.
А тваё ласкавае лісце
З ціхім журчаннем
Будзе пераліваецца
У горлы птушак...

Хвала і вам,
Цярплівыя таполі !
Хай рукі адсохнуць у тых,
Хто бязлітасна вас высякае.
Ім боязна пуху твайго лебядзінага,
Ім боязна паху твайго салаўінага,
-Яны баяцца сваёй красы.
Ім падабаюцца толькі слупы
На пустых бальшаках
Ды часам кактусы.



## ПРЫРОДА НАДЗІВА ПРАЎДЗІВА

Прырода надзіва праўдзіва -
Ці вые, ці хмельна пяе.
На свет нас яна нарадзіла,
А мы забіваем яе.

То шротам, то востра пілою...
То труцім, то палім жыўцом...
Планету мы так прапалолі:
Нашчадкі заплоцяць жыццём.

Альбо выпраўляем машынай
Рачулкі, што любяць пятляць.
І сохне цяністы ляшчыннік,
І мяккія сцежкі пыляць.

Прырода надзіва праўдзіва...
І толькі скрані валуны -
Калоссе зашэпча пра дзіва,
Пачнуць хваляваецца ільны.

І толькі збяры ўсё камение
З тваёй неўрадлівай зямлі -
І сам ты замрэш у здзіўленні:
Як дзякуюць шчодра палі !

Накормяць цябе і напояць,
Бо ты нарабіўся за трох...
Пясчанае роднае поле
І крушні ля белых дарог.

Цяжкое ліпнёвае голле
Пад пылам схілілася ніц.
З трывогай сачу за Бягомлем:
Ідуць табуны навальніц.

## САРМАЦКАЕ КАДЗІЛА

Адспявалі трубы залатыя,
Лета захлынулася ў расе.
Кветкі ў лесе ёсць,
Але не тыя:
Да Чырвонай кнігі збеглі ўсе.

Дзе ты, кураслеп лясны ?
Дзе ворлік ?
Дзе мядзведжая цыбуля-чарамша ?
Ходзіш, ходзіш -
І пяршыць у горле...
Плач, асірацелая душа.

А калісь было ўсяго надзіва !
Як збядпеў у нас зялёны свет.
Дзе знайсці сармацкае кадзіла,;
Сон-траву, і меч-траву, і познацвет ?

Вінаваты ў гэтым не сарматы,
Вінаваты ўсе мы: ты і я.
Каб адчуць сцюдзёны водар мяты,
За сто вёрст ляціць мая сям"я.

Душна ад жалезнага прагрэсу:
Дружна падразаем жылы лесу,
Траў і кветак топчаць карані,
Ад зялёнай адракаемся радні.

Што ты плачаш па траве і кветках ?
Адрадзілі ж мы зуброў, баброў...
Ну, а чорны бусел ?
Вельмі рэдкі,
А заўсёды быў з людскіх сяброў.

Многа ліха - ды усюды ціха,
А зямля дакуль будзе цярпець ?
А нашчадкам нашым -
Чым жа дыхаць ? -
Мы ўжо задыхаемся цяпер.

Трэба нам і захады і меры,
Каб між светлых беларускіх рос
Зноў расцвіў чаравічок венерын
І званочак сіні ў лесе рос.

# Заапоказкі

— Уставай, пеўні ўжо даўно праспявалі!
— А мне да лямпачкі ! Ці ж я курыца?

* * *

Адзін паляўнічы да другога:
— Слухай, а як зайца ад зайчыхі адрозніць ?
— Ды проста. Бярэш яго за вушы, ставіш на зямлю і ўважліва глядзіш: калі пабег — значыць, заяц, а калі пабегла — значыць, зайчыха.

* * *

Ідуць па лесе Заяц і Воўк, глядзяць — з выцвярэзніка выходзіць Вярблюд. Заяц кажа:
— Глядзі, Воўча, як каня змардавалі !
— То ж не конь, а Вярблюд.
— Усё роўна шкада.

* * *

Шпацыруе Заяц па лесе. То Ваўка за хвост таргане, то Лісе кухталя дасць, то Дзіку штурхаля адваліць, то Ласю фофана выпіша. Усе звяры ў жаху ўцякаюць. Насустрач кіруе Мядзведзь. Заяц яму — падножку.
— Ты што, Касы ?! — крычыць, падымаючыся, Мядзведзь. — Я ж Таптыгін !
— А я — Касыгін ! — цераз плячо кідае Заяц.

* * *

Заяц бачыць: на паляне ляжыць Воўк. Ласкавым, ліслівым галаском запытвае:
— Што, Ваўчок, адпачываеш?
— Ды не, Касы, у пастку трапіў.
— У-у, разлёгся тут, шэрая скаціна!

* * *

Сядзяць два кракадзілы на высакавольтнай лініі, хвастамі круцяць, балабоняць.
Пралятае побач плойма напільнікаў. Старэйшы падлятае да кракадзілаў і пытаецца:
«Як у Афрыку трапіць ?» Адзін кракадзіл махнуў хвастом направа. Напільнікі паляцелі. Другі кракадзіл пытаецца: «Нафіга ім набрахаў ?»
— Да лямпачкі, яны ўсё адно без ручак.

* * *

Звяры трапілі ў вырытую паляўнічымі яму. Захацелі есці і вырашылі: хто наймаладзейшы — таго і з'ядзім.
Ліса: «Мне тры гады». Воўк: «Мне два». Заяц: «Мне гадок». Мядзведзяня: «А мне... а мне... ДЫ МНЕ ХАЦЯ І ГОДУ НЯМА ЯШЧЭ, Я ТАК ЎРЭЖУ — УВЕСЬ АПЕТЫТ ЗНІКНЕ !»

* * *

Бяжыць Заяц па лесе. Насустрач яму Мядзведзь.
— Ты куды, Касы ? — пытаецца Мядзведзь.
— Загад па лесе вывесілі. У каго пяць лап — пятую адрэзаць, каб не перашкаджала.
— У цябе што — пяць лап ?
—Ды не. Але выкананне даручылі Аслу. Ён спачатку адразае, а потым пачынае лічыць.

## Дзеушка моей мячты



## УВАГА: ВЫНІКІ КОНКУРСА

Пераможцамі абвешчанага конкурса на найлепшага знаўцу беларускіх, рускіх і англійскіх песняў, у тэкстах якіх фігуруюць назвы млекакормячых, птушак, кветак і дрэваў, сталі

*Ніна Каўпак, Юрась Сцяпанаў, Надзея Сцяпанава*

але

**КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

з новымі намінацыямі:
Намінацыя PISCES — рыбы
Намінацыя INSECTA — насякомыя (вусякі)

6 чытачоў (па 3 у кожнай намінацыі), якія да 1 кастрычніка дашлюць на адрас рэдакцыі:

**210038, Віцебск, паштовая скрынка 5**
**спіс з найбольшай колькасцю ўрыўкаў адпаведных песняў, - атрымаюць кампакт-дыскі з запісамі папулярных выканаўцаў.**

«ЗЯЛЁНЫ ГАЙ»
Выдаецца на беларускай і англійскай мовах пры падтрымцы USIS
Заснавальнік:
Моладзевая экалагічная ініцыятыва «ЭКАВІТА»
Выдавец: ЦМІ «КОНТУР»
Галоўны рэдактар: Наталля Абазоўская
Рэдакцыйная рада: Уладзімір Слабін, Юры Корбан, Аляксандр Цароў
Дызайн і вёрстка: Сяржук Серабро

Тэл./факс: +375-212-216235
HTTP://www.vitebsk.net/kontur,
HTTP://www.geocities.com/RainForest/Wetlands/1061/ecavita.html
E-Mail: kontur@vitebsk.net

Друк: Віцебскае аддзяленне Фонду імя Л. Сапегі

Выдаецца на правах рукапісу, для унутранага карыстання